ROCZNIKI HUMANISTYCZNE
Tom LIII, zeszyt 7 – 2005

НІНА БАРШЧЭЎСКАЯ

# РУСЫФІКАЦЫЙНЫЯ ПРАЦЭСЫ Ў БЕЛАРУСІ Ў АЦЭНЦЫ СТАНІСЛАВА СТАНКЕВІЧА

На старонках часопіса „Запісы" шмат увагі адводзілася моўнай і мовазнаўчай праблематыцы. Паяўляліся артыкулы, прысьвечаныя старабеларускаму друку, дзейнасьці першадрукароў і асьветнікаў, гісторыі беларускае мовы, характарыстыцы беларускіх дыялектаў, разьвіцьцю сучаснае беларускае мовы, пытаньням рэфармаваньня яе, ролі беларускае мовы ў школьнай сыстэме Беларусі. Апрача гэтага паяўляліся публікацыі пра беларускія ўласныя назовы ды пра разьвіцьцё беларусаведы ў сьвеце, м. ін. у Польшчы, але з асаблівым улікам Заходняй Эўропы й Амэрыкі.

Спосабы русыфікаваньня беларускае мовы найбольш шырока асьвятляў Станіслаў Станкевіч.

На старонках „Запісаў" за 1962 год была зьмешчана грунтоўная публікацыя гэтага дасьледніка пад назовам *Русыфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русыфікацыйнаму працэсу*[1]. Аўтар адзначае, што працэс зьліцьця ўсіх народаў у Савецкім Саюзе праводзіўся вылучна на расейскай нацыянальнай базе, што азначае працэс усебаковае русыфікацыі ўсіх нерасейскіх народаў, у тым ліку й беларускага народу ды ягонае мовы.

„Узьнятая яшчэ ў пачатку 30-ых гадоў кампанія супраць беларускае мовы ў БССР і палітыка ейнае русыфікацыі знайшлі сваё найшырэйшае

---

Dr hab. Nina Barszczewska – adiunkt Katedry Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego, adres do korespondencji: ul. Szturmowa 4, 02-678 Warszwa.

*На падставе публікацыяў, зьмешчаных на старонках часопіса „Запісы". Часопіс „Запісы" Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва пачаў выдавацца у 1952 годзе ў Нью-Ёрку, у гадох 1962-1970 выходзіў у Мюнхэне, а з 1974 году па сёньняшні дзень ізноў выдаецца ў Нью-Ёрку.

[1] С. Станкевіч, *Русыфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русыфікацыйнаму працэсу*, у: „Запісы", кн. I, Мюнхэн 1962, с. 89-137.

сканкрэтызаваньне ў выдадзенай у 1931 годзе пад рэдакцыяй дырэктара Інстытуту Філязофіі Беларускай Акадэміі Навук акадэміка С. Я. Вольфсона й пры галоўным ягоным аўтарстве кнізе «Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі». Практычным завяршэньнем першае фазы гэтае кампаніі сталася ўрадавая пастанова Савету народных камісараў БССР з 28 жнівеня 1933 г. «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу», якая, аднак, датычыла ня толькі правапісу, але й фанэтычных ды марфалягічных асаблівасьцяў беларускае мовы"[2].

Для абгрунтаваньня моўнае палітыкі выкарыстоўвалася абавязваючая ў СССР да 1950 году лінгвістычная тэорыя акадэміка Н. Я. Марра пра паўстаньне й разьвіцьцё моваў, паводле якой „мова – гэта клясавая зьява, і на працягу ўсяе гісторыі адбываецца рэвалюцыйны працэс скрыжоўваньня моваў, які вядзе да поўнага іхнага зьліцьця ў вадну мову на ўсім сьвеце"[3].

Напрыканцы 1950 году тэорыя Марра была адкінутая Сталінам, як ненавуковая й вульгарызатарская. Узамен была ўсанкцыянаваная ім новая моўная тэорыя аб будучай інтэрнацыянальнай сусьветнай мове. Ніякіх сумневаў не пакінуў М. Каммары, што гэтай мовай павінна стацца расейская мова. Заўважыў ён, што для часткі малых нацыяў, племяў і народнасьцяў расейская мова ўжо сталася ня толькі сродкам міжнацыянальных лучнасьцяў, але й роднаю моваю[4].

С. Станкевіч адзначае, што расейская мова знаходзіцца ў вынятковым палажэньні, што практычна дае ёй поўную гегемонію над усімі іншымі мовамі народаў Савецкага Саюзу, а тэарэтычны прынцып узаемнага ўзбагачэньня моваў на практыцы зводзіцца да аднабаковага ўзбагачэньня нерасейскіх моваў з расейскае мовы, а не наадварот. Гэтая прывілеяваная сытуацыя расейскае мовы найчасьцей абгрунтоўваецца ейным багацьцем[5], велічнасьцю[6], роляй мовы міжнацыянальных сувязяў[7] і нават другою роднаю моваю[8].

---

[2] Тамсама, с. 89.

[3] Тамсама, с. 90.

[4] Тамсама, с. 91.

[5] Расейская мова «па свайму багацьцю, па грандыёзнаму значэньню тых каштоўнасьцяў, што створаны на гэтай мове, займае адно зь першых месц сярод вядучых моваў сьвету і ня можа не аказаць уплыву на другія мовы нашага Саюзу» – Н. І. Крукоўскі, *Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову*, Мінск 1958, с. 5, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 91.

[6] «Руская мова займае асобнае месца сярод іншых моў. Зьяўляючыся мовай вялікага рускага народу, які аказвае нябачаны ў гісторыі прагрэсыўны ўплыў сваёй культурай на культуру іншых народаў, які вывеў гэтыя народы нашай краіны на шлях сацыялізму, згур-

С. Станевіч піша, што рэалізацыя бальшавіцкае моўнае палітыкі ў БССР, падобным чынам як і ў іншых нацыянальных рэспубліках, праводзілася адначасова ў двух кірунках, мэтай якіх была поўная нівэляцыя беларускае мовы: 1. у кірунку звужэньня сфэры ўжываньня беларускае мовы ў публічным жыцьці ды замены яе расейскаю, як другою роднаю моваю беларускага народу; 2. У кірунку ўсебаковае русыфікацыі яшчэ дапушчанай да публічнага ўжываньня беларускае літаратурнае мовы[9].

Афіцыйнае прызнаньне расейскае мовы ў якасьці другой роднай мовы прывяло да несумненнай перавагі расейскае мовы над беларускаю ў грамадзкім жыцьці БССР. Перш за ўсё гэтая гегемонія расейскае мовы праявілася ў школьнай практыцы. Паводле афіцыйных дадзеных, у Беларусі ў гадох 1955-1956 95% школаў вяло навучаньне ў беларускай мове, а толькі 5% – у расейскай. Аказалася аднак, што гэтыя дадзеныя нерэальныя, паколькі былі апублікаваныя на падставе афіцыйнага назову школаў. Тым часам – піша С. Станкевіч – беларускія з назову школы ў велізарнай бальшыні навучаньне вялі па-расейску, з выключэньнем толькі заняткаў па беларускай мове й літаратуры[10].

Супраць ігнараваньня беларускае мовы ў 1957 годзе пачалася на старонках „Літаратуры і Мастацтва" акцыя супраціву, паднятая студэнтам Барысам Сачанкам. Далучыліся да яго іншыя студэнты (В. Чамярыцкі,

тавашы іх у вадзіную, моцную, многанацыянальную сям'ю, руская мова ў вышэйшай ступені ўзьдзейнічае на нацыянальныя мовы» – М. І. Крукоўскі ў калектыўнай кнізе (*Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі*, Мінск 1958, с. 122, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 91).

[7] Як запісана ў новай Праграме КПСС, «працэс дабравольнага вывучэньня, побач з роднай мовай, рускай мовы мае пазытыўнае значэньне, дзеля таго што гэта дапамагае ўзаемнай абмене дазнаньнем і далучэньню каждай нацыі й народнасьці да культурных дасягненьняў усіх іншых народаў СССР і да сусьветнай культуры. Руская мова фактычна сталася агульнай мовай міжнацыянальных лучнасьцяў і супрацоўніцтва ўсіх народаў СССР» – „Правда", 2.11.1961. за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 92.

[8] «Цяпер расейская мова сталася ўзапраўды другой роднай мовай народаў, што насяляюць тэрыторыю Савецкага Саюзу, і як такая, жывіць і ўзбагачае сабой мовы гэтых народаў» – М. І. Крукоўскі, *Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі*, Мінск 1958, с. 122, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 92. „...для часьці малых нацыяў, плямён і народнасьцяў расейская мова ўжо цяпер сталася ня толькі сродкам міжнацыянальных зносінаў, але й роднай мовай... Паводля дадзеных перапісу насельніцтва 1959 году, звыш 10 мільёнаў насельніцтва нерасейскага паходжаньня назвалі расейскую мову сваёй роднай мовай" – М. Каммари, *Строительство коммунизма и развитие национальных языков*. „*Политическое самообразование*", № 4, 1960, с. 75, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 92.

[9] Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 92.

[10] Тамсама, с. 93.

В. Голуб) ды настаўнікі (К. Санько, У. Васілец). У сувязі з пачатай кампаніяй у абароне беларускае мовы, зарэагавала й Міністэрства асьветы, якое заявіла, што імкнецца да таго, каб выправіць некаторыя ненармальныя зьявы ў школьнай сыстэме.

У канцы 1958 году сэсія Вярхоўнага Савету СССР прыняла закон *Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і далейшым разьвіцьці народнай асьветы ў СССР.* Сьледам за гэтым былі прынятыя адпаведныя законы і ў саюзных рэспубліках. Гэты закон у БССР быў прыняты ўжо на пачатку 1959 году. У 11 артыкуле II разьдзелу гаварылася, што навучаньне ва ўсіх школах БССР ажыцьцяўляецца ў роднай мове вучняў. Бацькі мелі пастанаўляць, у школу зь якою моваю навучаньня аддаваць сваіх дзяцей. Навучаньне расейскае мовы ў школах зь беларускаю моваю навучаньня, а таксама навучаньне беларускае мовы ў школах з расейскаю альбо іншаю моваю навучаньня праводзілася згодна з жаданьнем вучняў і іхных бацькоў.

На думку С. Станкевіча, у сытуацыі, калі бацькі вучняў знаходзіліся ў поўнай залежнасьці ад партыйных органаў і прафсаюзных арганізацыяў, пакіданьне за імі выбару мовы навучаньня фактычна зводзілася да перадачы вырашэньня партыйным і прафсаюзным органам, якія, як правіла, давалі пяршынства расейскай мове. Сапраўднае палажэньне беларускае мовы знаходзілася ў поўнай супярэчнасьці з прапагандовымі заявамі афіцыйных савецкіх дакумэнтаў аб свабодным разьвіцьці й раўнапраўнасьці ўсіх моваў народаў Савецкага Саюзу. З другога боку, супраціў інтэлігенцыі – гэта бясспрэчны доказ, што дэградацыя беларускае мовы на карысьць расейскае праводзілася насуперак жаданьням і волі беларускага жыхарства[11].

Гегемонія расейскае мовы гэтак жа выразна, як у школьніцтве, праяўлялася таксама ў выдавецкай справе. С. Станкевіч прыводзіць статыстыку выданьняў у БССР у беларускай і расейскай мовах за гады 1954-1960. Вынікае зь яе, што паводле назваў кніг у расейскай мове больш іх, чым у беларускай, але паводле агульнага накладу – значная перавага была па баку беларускае мовы. Інакш сытуацыя прадстаўлялася ў выпадку газэтаў: іхная колькасьць у беларускай мове амаль у чатыры разы большая, чым у расейскай мове, затое агульны наклад выдаваных газэтаў у расейскай мове мала ўступаў агульнаму накладу ў беларускай мове, а за некаторыя гады яны былі амаль роўныя ў абедзьвюх мовах. За гады 1959 і 1960 агульны гадавы наклад газэтаў у расейскай мове быў ужо большы, чым у беларускай мове. Адваротная зьява назіралася сярод часопісаў: у беларускай мове за пэрыяд ад 1954 да 1960 году іх выдавалася спачатку ўдвая, а пасьлей амаль утрая меней, чым у расейскай мове, затое іхны тыраж за ўсе гады быў больш як

[11] Тамсама, с. 96-97.

удвая вышэйшы за тыраж у расейскай мове[12]. Пры гэтым нельга забываць пра расейскую літаратуру й прэсу, якая выдавалася ў Расеі й залівала беларускі рынак.

Абапіраючыся на *Летапіс друку БССР*, С. Станкевіч піша, што аб прысьпешаных русыфікацыйных тэмпах найлепей можа сьведчыць факт, што яшчэ ў гадох 1930-1935, калі пачаўся працэс русыфікацыі беларускае мовы, у БССР выдавалася ў сярэднім 85% кніг у беларускай мове, а ў расейскай толькі 5%[13].

Беларускі эміграцыйны дасьледнік робіць выснову, што расейская мова, якая афіцыйна ўспрымалася як мова міжнацыянальных лучнасьцяў ды другая родная мова ўсіх народаў, „фактычна сталася першай мовай у грамадзкім, палітычным, адміністрацыйным і навет культурным жыцьці БССР. Беларуская-ж мова, выціснутая на задні плян і дапушчаная фактычна да выконваньня адно падсобных ці пабочных і часткова паказальна-прапагандовых функцыяў”[14].

У антыбеларускай кампаніі ў галіне мовы ў пачатку 1930-х гадоў беларуская інтэлігенцыя абвінавачвалася ў асноўным у тым, што яна рупілася пра чысьціню роднае мовы й абараняла яе перад русыфікацыяй. Сьведчаньнем гэтага можа быць выказваньне акадэміка Вальфсона, які ў 1931 годзе пісаў: „Адным з паважнейшых заданьняў, якое паставілі перад сабой нацдэмаўскія пурыстыя, было вытруціць зь беларускае мовы ўсякія элемэнты расейскае мовы. Яны выганялі сотні агульна прынятых, арганічна ўрослых у беларускую мову расейскіх словаў. Яны карчавалі ўсё тое, што іх выабражэньню здавалася, як «русыцызм».”[15] Таксама ва ўступе ўрадавага дэкрэту *Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу* з 1933 году гаварылася, што «нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі й спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засьмечваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі»[16].

Уся далейшая моўная палітыка разьвівалася ў кірунку зьнішчэньня гэтага моўнага бар’ера. Рэформа 1933 году ўвяла ў беларускую мову каля 30 фанэтычных і марфалягічных расейскіх асаблівасьцяў. Расейская лексыка

---

[12] Тамсама, с. 97-98.

[13] Тамсама, с. 99.

[14] Тамсама, с. 99-100.

[15] *«Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі*, пад рэдакцыяй С. Я. Вольфсона, т. I, Мінск 1931, с. 125, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 102.

[16] *Беларуская Граматыка,* Т. Ломцев, Менск 1935, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 102.

ўводзілася паступова пасьля рэформы не дэкрэтаваным шляхам, але ў парадку дабравольных запазычаньняў і ўзбагачаньня беларускае мовы, а разам зь ёю далейшыя марфалягічныя й сынтаксічныя зьмены, а нават фразэалягічныя расейскаія асаблівасьці. Ужо ў *Прадмове* да *Расейска-беларускага слоўніка* з 1953 году гаварылася, што „толькі пасьля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі [...] беларуская мова, як і ўся культура беларускага народу, за гады савецкай улады дасягнула высокага разьвіцьця [...] выпрацавала свае літаратурныя нормы, значна папоўніла лексычны запас за лік слоў роднай ёй расейскай мовы”[17].

Каб прасачыць, як гэтае ўзбагачэньне беларускае мовы праходзіла, С. Станкевіч прагледзеў вялікую колькасьць: 1. палітычнае, навуковае й публіцыстычнае літаратуры, мова якой уважаецца за правільную й агульна абавязваючую; 2. празаічнае мастацкае літаратуры, якая выяўляла найбольшы супраціў русыфікацыі й заставалася значна чысьцейшаю за першую зь гледзішча беларускасьці.

У галіне марфалёгіі найбольш яркімі русыцызмамі, уведзенымі рэформаю 1933 году, былі:

– канчатак -**а** замест **-у** (*завода*, *сацыялізма* замест *заводу*, *сацыялізму*),
– націскныя канчаткі ў давальным і месных склонах назоўнікаў множнага ліку **-ам**, **-ах** замест **-ом**, **-ох** (*братам*, *аб гарадах* замест *братом*, *аб гарадох*),
– пашырэньне канчатка **-эй** у родным склоне назоўнікаў жаночага роду множнага ліку замест -**яў** (*абласьцей*, *магчымасьцей* замест *вобласьцяў*, *магчымасьцяў*),
– зьяўленьне расейскага суфікса **-цель** (*выхавацель*, *натхніцель*),
– узаконеньне дзеяпрыметнікаў цяперашняга часу залежнага стану, якія беларускай мове зусім няведамыя (*любімы*, *перажываемы*) замест дзеяпрыметнікаў залежнага стану прошлага часу (*улюблены*, *перажываны*),
– паяўленьне зусім чужых беларускай мове зваротных формаў дзеяпрыметнікаў (*адбыўшыеся канфэрэнцыі*, *набліжаўшайся вайны*),
– пашырэньне кароткай формы дзеяпрыметнікаў залежнага стану прошлага часу замест поўнай (*здымак зроблен*, *рамонт закончан* замест *здымак зроблены*, *рамонт закончаны*)[18].

Ня быў вольны ад русыцызмаў таксама сынтаксіс, напрыклад:

---

[17] *Русско-белорусский словарь*, 1953, с. 6, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 102.
[18] Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 103-106.

– выступаньне вінавальнага склону назоўнікаў пры спалучэньні зь дзеясловамі з адмоўем **не** (*Шукаць далёка прыклады ня трэба*) замест роднага склону (*Шукаць далёка прыкладаў ня трэба*),
– спалучэньне дзеяслова *вучыць* з давальным склонам замест роднага (*Леначку шмат чаму трэба вучыць* замет *Леначку шмат чаго трэба вучыць*),
– зьяўленьне вінавальнага склону замест давальнага пры дзеяслове *дзякаваць* (*дзякавалі Савецкую Армію* замест *дзякавалі Савецкай Арміі*),
– празьмерна частае ўжываньне прыназоўніка **па** (*па мясцоваму часу* замест *паводле мясцовага часу*, *па запрашэньню* замест *на запросіны*)[19].

Русыфікацыя закранула таксама беларускую фразэалёгію. Часта сустракаюцца такія ўстойлівыя словазлучэньні, як:
– *заслугоўвае ўвагі* замест *заслугоўвае на ўвагу*,
– *уступіць у строй* замест *увайсьці ў дзеяньне*,
– *што б там ні стала* замест *за ўсякую цану*,
– *аказваць актыўны ўплыў* замест *актыўна ўплываць*[20].

„Насаджваньне ў беларускую мову спэцыфічных для расейскае мовы фразаў і ідыёматычных выразаў для беларускае мовы больш небясьпечнае, чымся русыцызмы, прыкладам, у галіне слоўніцтва, бо яно разбурае апрычоны характар мовы, ейную нутраную структуру"[21] – адзначае С. Станкевіч.

Працэс русыфікацыі беларускае мовы найшырэй закрануў ейны лексычны матэрыял, што зусім зразумелае, калі ўзяць пад увагу, што й нармальныя ўплывы аднае мовы на другую найшырэй праяўляюцца менавіта ў аліне лексыкі. Слоўныя запазычаньні з расейскае мовы С. Станкевіч падзяліў на тры агульныя катэгорыі:

1. Словы, хаця з славянскімі, але чужымі беларускай мове каранямі альбо з каранямі ў беларускай мове непрадуктыўнымі, якія ня твораць у ёй марфалягічнага гнязда, але выступаюць толькі ў паасобных словах, далёкіх паводле значэньня й словаўтваральнай будовы ад адпаведных ім расейскіх словаў, значыць словы з рознымі ў абедзьвюх мовах каранямі, напр. *апасацца – опасаться* замест *баяцца*, *асьцерагацца*; *беззаветна – беззаветно* замест *самааддана*, *самаахвярна*; *вопыт – опыт* замест *дазнаньне*, *практыка*; *дзяшовы – дешевый* замест *танны*; *іспыты – испытания* замест *экзамен*, *выпыты*; *мяцеж – мятеж* замест *бунт*; *недаўменьне – недоумение* замест *зьдзіўленьне*, *зьбянтэжанасьць*; *непазьбежны – неизбежный* замест

[19] Тамсама, с. 106-108.
[20] Тамсама, с. 109-110.
[21] Тамсама, с. 110.

*нямінучы, няўхільны*; *папрок – попрек* замест *дакор*; *прамы – прамой* замест *просты, беспасярэдні*; *рэўнасьць – ревность* замест *зайздрасьць*; *састаў – состав* замест *склад; урач – врач* замест *лекар, хадайніцтва – ходатайство* замест *стараньне*, і г. д.

2. Структуральныя калькі з расейскае мовы – словы з каранямі, ведамымі й прадуктыўнымі ў беларускай мове, якія, аднак, у тым значэньні, якое яны маюць у расейскай мове, у беларускай мове не ўжываюцца, альбо маюць зусім іншую вонкавую структуру, чым у расейскай мове, значыць словы з супольнымі каранямі, але з расейскаю структураю, напр. *абавязацельства – обязательство* замест *забавязаньне*; *бедства – бедствие* замест *бяда, няшчасьце*; *воін – воин* замест *ваяк, жаўнер*; *грабёж – грабеж* замест *рабунак*; *неймаверны – неимоверный* замест *неверагодны*; *пастаянны – постоянный* замест *сталы, заўсёдны; унізіцельны – унизительный* замест *зьняважлівы, зьневажальны*; *цэласнасьць – целостность* замест *цэласьць, суцэльнасьць*; *шэсьце – шествие* замест *паход.*

3. Сэмантычныя калькі з расейскае мовы – словы, якія ў той самай форме існуюць і ў беларускай мове, але маюць у ёй зусім іншае значэньне, чым у расейскай мове, значыць беларускія словы з расейскім значэньнем, напр. *адмяніць – отменить* у значэньні *скасаваць*; *дзяленьне – деление* ў значэньні *падзел*; *некалькі – несколько* ў значэньні *крыху, трохі*; *узрост – возраст* у значэньні *век*[22].

С. Станкевіч піша, што для беларускае мовы найбольш небясьпечнымі зьяўляюцца расейскія словы другой і трэцяй катэгорыяў. У сувязі з тым, што іх карані супольныя расейскай і беларускай мовам і пры гэтым у абедзьвюх мовах прадуктыўныя, дык неспэцыялісту ў галіне мовы нялёгка заўважыць іхнае расейскае паходжаньне. Затое русыцызмы першае катэгорыі, карані якіх альбо зусім не існуюць у беларускай мове, альбо зьяўляюцца непрадуктыўнымі, лёгка ўспрымаюцца, як чужыя для беларускае мовы[23].

С. Станкевіч прыгадвае, што агульныя прынцыпы падабенстваў і адпаведнасьцяў у мовах народаў СССР вызначыў М. Каммары. Выражаюцца яны ў запазычаньні спэцыфічных расейскіх і асабліва новых савецка-расейскіх выразаў ды ў калькаваньні іх, а таксама ў засваеньні асноўнага фонду інтэрнацыянальнай лексыкі пры пасярэдніцтве расейскае мовы[24]. Іншыя савецкія мовазнаўцы І. Беладзед і А. Мельнічук вызначылі расейскай

[22] Тамсама, с. 111-121.

[23] Тамсама, с. 122.

[24] *Строительство коммунизма и развитие национальных языков*, „Политическое самообразование", № 4, 1960, с. 72, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 122.

мове ролю «крыніцы ўдасканаленьня нацыянальных моваў»[25]. Меркаваньнем М. Крукоўскага, беларуская мова запазычвае з расейскае неабходныя словы, якія па тых альбо іншых прычынах ня могуць быць утвораныя на базе ўласных моўных сродкаў[26]. Дапоўніў яго Ф. Янкоўскі, цьвердзячы, што «запазычаньне зьяўляецца неабходнасьцю толькі тады, калі ў мове няма адпаведнага слова»[27].

Тым часам практыка паказвае, што беларускія словы мэханічна выкідваюцца зь лексычнага запасу беларускае мовы, а на іх месца ўводзяцца чужыя ёй расейскія словы[28] – адзначае С. Станкевіч.

У рэцэнзіі на *Беларуска-рускі слоўнік*[29] Станіслаў Станкевіч напісаў: „Выданьне гэтага слоўніка наагул – зьява бясспрэчна пазытыўная. Аднак зрэдагаваньне яго й падбор уведзеных у яго словаў выразна йшлі па лініі агульнае бальшавіцкае моўнае практыкі – нівэляцыі апрычонасьці й самабытнасьці беларускае мовы й мэханічнага набліжэньня яе да мовы расейскае”[30] .

Аўтар рэцэнзіі зьвяртае ўвагу на тое, што да гэтае мэты ўкладальнікі й рэдактар слоўніка йшлі наступнымі шляхамі:

1. Яны паўтарылі ў *Беларуска-рускім соўніку* ўсе тыя русыцызмы, якія былі ўжо ўведзеныя ў беларускую частку *Руска-беларускага слоўніка*, напр. *зьнешні* замест *вонкавы*; *каварны* замест *падступны*, *зрадлівы*; *разараць* замест *разбураць*, *спусташаць*, *руйнаваць*; *сукупнасьць* замест *суцэльнасьць* і г. д.

2. Адпаведныя русыцызмам беларускія словы найчасьцей падаюцца ў слоўніку таксама, але са звужаным значэньнем, напр. *вогнішча* пададзенае толькі ў асноўным значэньні, якому адпавядае расейскае слова *костёр*, а ў пераносным значэньні замененае русыцызмам *ачаг*; слова *лекар*

---

[25] І. К. Белодед, А. С. Мельничюк, *Вопросы развития национальных языков в период перехода от социализма к комунизму*, Вопросы языкознания, № 5, Москва 1959, с. 11, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 122.

[26] М. І. Крукоўскі, *У кнізе „Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі”*, Мінск 1958, с. 122, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 122-123.

[27] „Літаратура і Мастацтва”, № 38, 11.5.1957, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 123.

[28] Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 123.

[29] Ст. Станкевіч, *Беларуска-Рускі Слоўнік. Пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы, Акадэмія Навук Беларускай ССР. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа. Дзяржаўнае Выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў. Масква. 1962, каля 90 000 слоў, тыраж 15 000 экз., бач. 1048*, у: „Запісы”, кн. 2, Нью-Ёрк 1963, с. 205-207.

[30] Тамсама, с. 205.

выступае з азначэньнем размоўнае, значыць слоўнік не рэкамэндуе яго ўжываць у літаратурнай мове;

3. У *Беларуска-рускім слоўніку* зьявіліся й такія чыста расейскія словы, якіх яшчэ не было ў беларускай частцы *Руска-беларукага слоўніка* з 1953 году, напр. *аберагаць* замест *ашчаджаць*, *ахоўваць*; *дзяшовы* замест *танны* і г. д.;

4. У *Беларуска-рускім слоўніку* няма цэлага шэрагу беларускіх словаў, якія шырока ўжываюцца беларускімі пісьменьнікамі, напр. няма слова *нямогласьць*, як сыноніму словаў *нездаровасьць*, *хворасьць*[31].

С. Станкевіч зьвяртае ўвагу на інфармацыю ў *Прадмове* да слоўніка, дзе паведамляецца, што падаецца ў ім «навейшая лексыка», якая ўвайшла ў ужываньне «ў гады сацыялістычнага будаўніцтва». Па словах аўтара рэцэнзіі, „гэта ня што іншае, як мэханічны перанос у беларускую мову чыста расейскіх словаў на месца выціснутых зь яе беларускіх словаў, якія сваім каранём, марфалягічнай структурай або сэмантычным значаньнем розьняцца ад адпаведных словаў расейскае мовы. Гэткая бязьлітасна хірургічная практыка над жывой і здаровай беларускай мовай афіцыйна завецца ў Савецкім Саюзе «ўзбагачаньнем і ўдасканаленьнем беларускае мовы»"[32].

С. Станкевіч адзначае, што прыведзеныя прыклады „даволі паказваюць, што гэта ня слоўнік запраўднай беларускай мовы, але слоўнік беларускай *савецкай зрусыфікаванай* і далей саветызаванай-русыфікаванай беларускай мовы"[33].

Беларускі эміграцыйны дасьледнік зьвяртае ўвагу й на сьцьвярджэньне ў *Прадмове* да слоўніка, што павінен ён служыць ня толькі практычным дапаможнікам пры перакладах зь беларускае мовы на расейскую, але й сродкам павышэньня культуры беларускае мовы. З гэтага вынікае, што ўкладальнікі слоўніка й ягоны рэдактар імкнуліся надаць слоўніку нарматыўны характар. Значыць слоўнік павінен стацца абавязваючай нормай для беларускае мовы. „Але такое «павышэньне культуры беларускае мовы», якое дае гэты *Слоўнік*, гэта ня што іншае, як зьдзек над беларускай мовай, зьдзек над беларускай культурай наагул"[34] – канклюдуе С. Станкевіч.

З гэтымі русыцызмамі стараліся змагацца беларускія пісьменьнікі. Мова мастацкіх твораў значна адрозьніваецца ад мовы публіцыстыкі ды навукі – піша на старонках „Запісаў" беларускі эміграцыйны дасьледнік. „Аналізу-

[31] Тамсама, с. 205-206.

[32] Тамсама, с. 206.

[33] Тамсама, с. 207.

[34] Тамсама, с. 207.

ючы мову мастацкай літаратуры, няцяжка заўважыць, як яна бароніцца перад накіданымі беларускай мове русыцызмамі і ўжывае іх у васноўным у тых выпадках, калі гэтыя русыцызмы сталіся ўжо агульна прынятымі, здабылі поўнае права грамадзянства й зусім выціснулі адпаведныя ім беларускія граматычныя формы й словы"[35]. С. Станкевіч прасачыў розныя выданьні тых самых мастацкіх твораў і прыйшоў да высновы, што пісьменьнікі ў перавыданьнях стараюцца апублікаваныя раней (найчасьцей на старонках часопісаў) творы ачысьціць ад русыцызмаў ды замяніць іх беларускімі словамі. Вось некалькі прыкладаў:

**М. Лынькоў** ***Векапомныя дні***

| **Полымя** | **Кніжнае выданьне** |
|---|---|
| У партыі *састаялі*? (1957, IX, 66) | У партыі *былі*? (III, 362) |
| слаба *замаскіраваныя* (1957, X, 34) | слаба *замаскаваныя* (III, 433) |
| Вялі на *сворках* дзесятак аўчарак (1957, X, 39) | Вялі на *павадках* дзесятак аўчарак (III, 443) |
| *страстнае* жаданне дапамагчы ёй (1957, XI, 11) | *гарачае* жаданне ... памагчы ёй (IV, 237) |
| *ажаніўся на* семнаццаці гадовай *дзяўчыне* (1957, XII, 66) | *ажаніўся з* семнаццаці гадовай *дзяўчынай* (IV, 384) |

**У. Карпаў** ***За годам год***

| | |
|---|---|
| Усе глядзелі на Васіля Пятровіча з *недаўменнем* (1955, II, 16) | Усе глядзелі на Васіля Пятровіча *няўцямна* (158) |
| Але справа *абстаяла* крыху прасьцей (1956, VI, 90) | Але справа *стаяла* крыху прасьцей (448) |
| яны на прыватнай кватэры, за якую *плоцяць* гаспадарам (1957, VII, 68) | яны на прыватнай кватэры, за якую *плацяць* гаспадарам (583) |

**І. Шамякін** ***Крыніцы***

| | |
|---|---|
| запасная (шпулька з вудзільна) ў мяне ёсьць, усё іншае таксама *маецца* (1956, IV, 75) | запасная ў мяне ёсьць, усё іншае таксама *знойдзецца* (119) |
| Школу я кончу, не хвалюйцеся, - ціха і *прымірыцельна* сказаў ён (1956, V, 45) | Школу я кончу, не хвалюйцеся, - ціха і *прымірэнча* сказаў ён (267)[36] |

[35] С т а н к е в і ч , *Русыфікацыя...*, с. 124.

[36] Тамсама, с. 126-127.

„З прычыны агульных русыфікацыйных тэндэнцыяў, накіданых зьверху, канечнасьці высьцераганьня «вузкіх правінцыяналізмаў» «архаізмаў» ды «штучна твораных нэалягізмаў», а з другога боку – з прычыны канечнасьці «ўзбагачваньня» мовы «зь нявычэрпных крыніцаў мовы вялікага рускага народу», беларускія паэты й пісьменьнікі вельмі абмежаваныя ў сваіх магчымасьцях нармальнага ўзбагачваньня й разьвіцьця сваёй мовы на базе народнай мовы й дыфэрэнцыяваньня яе рознымі сэмантычнымі адценьнямі. Таму мова сучаснай беларускай савецкай літаратуры – гэта наагул мова бедная й бясхварбная”[37] – піша С. Станкевіч. Дасьледнік пагаджаецца зь меркаваньнем беларускага літаратурнага крытыка ў вольным сьвеце Алеся Беразьняка, які напісаў: „Лепшыя ды багатыя здабыткамі яшчэ нядаўна традыцыі беларускае літаратуры ў ейнай арыентацыі на ўзоры народнае мовы, на ейныя нацыянальныя асаблівасьці, на культуру й нацыянальную чысьціню літаратурнае мовы сяньня ў БССР мусова занядбаныя. Аснова разьвіцьця нацыянальнае літаратурнае мовы – мова народная ў сваёй першароднай някранутасьці чужароднымі ўплывамі абвяшчаецца аджылым і незразумелым правінцыялізмам. Да ўсяго гэтага прывяла нязьменная праз увесь час антынацыянальная палітыка бальшавікоў нівэляваньня беларускае літаратурнае мовы на расейскі ўзор, што разам з выгнаньнем зь беларускае літаратуры нацыянальнае праблематыкі пасьлядоўна й пэўна скіроўвае яе ў правінцыянальнае адгалінаваньне літаратуры расейскай”[38].

С. Станкевіч адначае, што роля беларускіх пісьменьнікаў у захаваньні беларускае мовы й ейнай абароне перад русыфікацыяй асабліва вялікая. Яны сысытэматычна стараюцца, па меры магчымасьцяў, пісаць чыстаю беларускаю моваю ды выходзяць зь ініцыятывай беспасярэдняга абмеркаваньня пытаньня чысьціні мовы, ейнае культуры й ейнага вяртаньня да народных моўных крыніцаў. Выходзячы з фармулёўкі Ф. Янкоўскага, што «абыякавасьць да мовы – абыякавасьць да народу й яго культуры»[39], пытаньне мовы расшыраецца на ўсе дзялянкі беларускае культуры[40].

---

[37] Тамсама, с. 127.

[38] А. Беразьняк, *Убітым шляхам сацыялістычнага рэалізму,* Беларускі Зборнік Інстытуту Вывучэньня СССР, № 7, Мюнхэн 1957, с. 36, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 127-128.

[39] Ф. Янкоўскі, *Абыякавасць да роднага слова*, „Літаратура і Мастацтва”, № 38, 11.5.1957, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 128.

[40] Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 130-131.

С. Станкевіч прыводзіць цэлы шэраг выказваньняў у абарону беларускае мовы розных пісьменьнікаў ды мовазнаўцаў[41].

С. Станкевіч піша, што ў многіх аўтараў гэтых выказваньняў падаюцца й канкрэтныя прыклады русыфікацыі беларускае мовы, але ў ніводным выпадку гэтыя чужыя беларускай мове элемэнты не называюцца русыцызмамі.

---

[41] **Янка Скрыган** – „Ведаць мову – знача ведаць законы яе будаваньня, ведаць яе народную аснову. Бо толькі ведаючы народную аснову мовы, можна ведаць як правільна і проста выказаць думку, як натуральна, паводля законаў гэтай мовы, пабудаваць фразу, дзе якое сказаць слова, патрэбнае іменна да гэтага месца, дзе зрабіць націск, дзе і як вымавіць галосныя, зычныя, цьвёрдыя, мяккія, уласьцівыя гучаньню гэтае мовы. Ведаць мову – гэта ў першую чаргу ведаць, як гаворыць народ" – Я. Скрыган, *Думкі аб мове*, „Літаратура і Мастацтва", № 38, 11.5.1957, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 131.

**Алесь Адамовіч** – „Літаратурная беларуская мова за апошнія дзесяцігодзьдзі стала больш нармалізаванай, узбагацілася лексычна. І тое, што літаратурная «кніжная» мова стала больш адрозьнівацца ад гутарковай – зусім заканамерна. Але гэта не азначае, што нармалізаваная літаратурная мова павінна быць пазбаўленая бытавых, народных і навет мясцовых хварбаў, што яна можа нагадваць «перакладную» мову. Дысталяваная вада хоць і чыстая, але мала прыемная на смак". – А. Адамовіч, *Багацце творчых індывідуальнасцяў*. „Літаратура і Мастацтва", № 21, 13.3.1957, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 132.

**Максім Лужанін** – „Далейшае разьвіцьцё нашай культуры самым цесным чынам зьвязана з разьвіцьцём і пашырэньнем беларускай мовы. Нажаль, некаторыя нашы таварышы па творчай рабоце, мастакі, артысты, кампазытары, людзі, чыё ўсё жыцьцё зьвязана зь беларускай культурай, вельмі часта ня ўжываюць мовы народу. А ці можна стварыць нацыянальную культуру, не валодаючы ў дасканаласьці мовай народу?" – „Літаратура і Мастацтва", № 88, 2.11.1957, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 132.

**Е. Ермаловіч** – „Нераспрацаванасьць літаратурных нормаў часта прыводзіць да таго, што ў нас часамі лічаць дыялектызмамі такія словы, якія ніколі ня былі імі і ня могуць быць навет з пункту погляду самых элемэнтарных патрабаваньняў лінгвістыкі...Дзе шукаць мяжу паміж дыялектызмамі й літаратурнай мовай? Такой абсалютнай мяжы, бадай, і быць ня можа. Але калі слова мае беларускі ці агульнаславянскі корань, бытуе ў народзе, калі народ яго разумее ці навет зможа зразумець па самой прыродзе кораня, ня трэба нашым крытыкам. рэдактарам прыдзірліва адносіцца да яго. Гэта значна ўзбагаціць і пашырыць нашу лексыку, якая ў ніякім разе не абмяжоўваецца слоўнікам у восемдзесят тысяч слоў (алюзія да «Руска-беларускага слоўніка» з 1953 г. – С. С.), а разы ў два, а можа і ў тры багацейшая". – „Літаратура і Мастацтва", № 8, 25.1.1958, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 133.

**Уладзімер Юрэвіч** – „Беларуская мова існуе не адно стагодзьдзе. І ў сучаснай літаратурнай мове мы сустрэнем шмат элемэнтаў, якія былі ўласьцівы мове XIX, XVIII і ранейшых стагодзьдзяў. Пісьменьнік ня мае права не зважаць на тыя традыцыі, якія складаліся стагодзьдзямі. Ігнараваць традыцыі – знача адрывацца ад народу. Калі, напрыклад, паслухацца некаторых «рэфарматараў» і адмовіцца ад фанэтычнага прынцыпу, на якім будуецца правапіс сучаснай беларускай мовы, – гэта будзе азначаць адыход ад традыцыі, што ляжыць у васнове агульнанароднай мовы і складае яе адметную асаблівасьць". – „Літаратура і Мастацтва", № 34, 27.4.1957, за: Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 133.

Нават у выпадку найбольш сырых русыцызмаў гаворыцца, што гэта «не народнае слова», гэта «канцыляршчына», «кніжная мова», «перакладная мова» й пад. Хаця ў мове існуюць тэрміны «паланізмы», «германізмы», то толькі «русыцызмы» разглядаюцца не як чужыя ў дадзенай мове элемэнты, але як зьява зусім натуральная й пажаданая, што спрыяе разьвіцьцю і ўзбагачэньню мовы[42].

Адроджаная на пачатку XIX ст. сучасная беларуская мова разьвівалася на базе заходніх гаворак сярэдняга дыялекту, падобным чынам, як і старабеларуская мова, якая ўжо ў XV ст. сталася моваю літаратурнай[43] і якая разьвівалася на базе паўночна-заходніх гаворак сярэдняга дыялекту. Сучасная беларуская мова магла чэрпаць патрэбныя ёй словы й выразы з народнай мовы да пачатку 30-х гадоў XX ст., да пачатку русыфікацыйнага курсу ў СССР. Пачынаючы ад гэтага часу асноўнаю крыніцаю разьвіцьця беларускае мовы сталася выключна мова расейская. Пры гэтым зь беларускае мовы выкідваліся тыя словы й формы, якія былі чужыя расейскай мове. Значыць русыфікацыйны працэс ахапіў таксама той пэрыяд, калі беларуская мова магла разьвівацца згодна з сваёю народнаю плыньню. Русыфікацыя закранула таксама інтэрнацыянальную лексыку, якая была пазычаная беларускаю моваю з моваў заходніх і ў якой захоўваліся фанэтычныя й марфалягічныя рысы гэтых моваў. У 30-х гадох пачаў абавязваць прынцып, што іншамоўныя словы могуць запазычвацца толькі праз расейскую мову з захаваньнем усіх фанэтычных і марфалягічных прынцыпаў расейскае мовы. „Такім парадкам савецкая моўная палітыка скіраваная на спыненьне адначасна двух раўналежных працэсаў нармальнага й прыроднага разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы: ейнага базаваньня на беларускай народнай мове й ейнай арыентацыі на Захад у галіне прысвойваньня патрэбных інтэрнацыянальных словаў, прымусіўшы ў першым і другім выпадку арыентавацца вылучна на расейскую мову”[44] – адзначае С. Станкевіч.

Апісаны С. Станкевічам на старонках „Запісаў” русыфікацыйны працэс у БССР, на жаль, працягваецца й сёньня ў фармальна незалежнай і сувэрэннай Рэспубліцы Беларусь, дзе надалей у розных сфэрах грамадзкага жыцьця дамінуе расейская мова.

---

[42] Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 134.

[43] Я. Станкевіч, *Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) ў розныя пэрыяды гісторыі Беларусі*, у: „Веда”, № 1 (28), Нью-Ёрк 1954, с. 5.

[44] Станкевіч, *Русыфікацыя...*, с. 136-137.

## BIBLIOGRAFIA


Barszczewska N., Рэформа 1933 году і стан нацыянальнае мовы ў Беларусі, у: Innowacje w językach wschodniosłowiańskich, t. II, Zielona Góra 2002, s. 19-26.

Баршчэўская Н., Беларуская эміграцыя – абаронца роднае мовы, Варшава 2004, с. 368.

Баршчэўская Н., Клопат „Бацькаўшчыны" пра чысціню беларускай мовы, у: Беларусіка-Albaruthenica, № 15, Мінск 2000, с. 100-109.

Баршчэўская Н., Моўныя пытаньні на старонках беларускіх эміграцыйных выданьняў у Нямеччыне, у: Literatura emigracyjna Rosjan, Ukraińców i Białorusinów, Lublin 2001, с. 267-290.

Баршчэўская Н., Суадносіны паміж мовай і нацыянальнай тоеснасьцю ў асьвятленьні газэты „Беларус", у: Беларусь – XXI стагоддзе. Нацыянальна-культурнае і духоўнае развіццё, Мінск 2004, с. 312-317.

Баршчэўская Н., Эміграцыйная газэта „Бацькаўшчына" ў абароне беларускае мовы, „Беларусіка-Albaruthenica", № 17, [Мінск] 2001, с. 219-228.

Запрудскі С., Беларуская мова ў яе кантактах з расійскай: у цісках аднімальнага білінгвізму, „Lětopis" 50 (2003) 1, с. 73-94.

Крушыніч С., Жахлівы білянс русыфікацыі, „Бацькаўшчына", № 7 (393), [Мюнхэн], 16 лютага 1958, с. 1-2.

Крушыніч С., Русыфікацыя ўсьцяж шалее, „Бацькаўшчына", № 36 (472), [Мюнхэн], 27 верасьня 1959, с. 1-2.

Крыга А., Падвойны працэс русыфікацыі, у: „Бацькаўшчына", № 24-25 (206-207), [Мюнхэн], 27 чэрвеня 1954, с. 4.

Станкевіч С., Русыфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русыфікацыйнаму працэсу, „Запісы", кн. I [Мюнхэн] 1962, с. 89-137.

Станкевіч С., Беларуска-Рускі Слоўнік. Пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы Акадэмія Навук Беларускай ССР. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа. Дзяржаўнае Выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў. Масква. 1962, каля 90 000 слоў, тыраж 15 000 экз., бач. 1048, у: „Запісы", кн. 2 [Нью-Ёрк] 1963, с. 205-207.

Станкевіч Я., Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) ў розныя пэрыяды гісторыі Беларусі, „Веда", № 1 (28) [Нью-Ёрк] 1954, с. 5.

Сцяцко П., Культура мовы, Мінск 2002, с. 448.

Сцяцко П., Праблемы лексічнага нармавання беларускай мовы, Гродна 1999, с. 293.

Шарупіч Р., Моўная русыфікацыя прагрэсуе, „Беларус", № 213, Нью-Ёрк, студзень 1975, с. 1.


## PROCESY RUSYFIKACYJNE NA BIAŁORUSI W OCENIE STANISŁAWA STANKIEWICZA

### Streszczenie


Rusyfikacja języka białoruskiego to jeden z głównych językoznawczych tematów podejmowanych na łamach czasopisma „Zapisy" wydawanego przez Białoruski Instytut Nauki i Sztu-

ki w Nowym Jorku. Autorem wielu publikacji poświęconych tej problematyce był Stanisław Stankiewicz. Autor opisał najważniejsze postanowienia, etapy i sposoby rusyfikacji języka białoruskiego, która przebiegała w dwóch kierunkach: 1. w kierunku zawężenia sfery używania języka białoruskiego w życiu publicznym i zastąpienia go językiem rosyjskim; 2. w kierunku wszechstronnej rusyfikacji białoruskiego języka literackiego.

Polityka językowa, poczynając od lat 30. XX wieku prowadziła do zniszczenia bariery między językiem białoruskim i rosyjskim. W wyniku reformy w 1933 roku wprowadzono do języka białoruskiego około 30 fonetycznych i morfologicznych osobliwości języka rosyjskiego. Natomiast rosyjska leksyka zalewała język białoruski w sposób nie zadekretowany, lecz w drodze „dobrowolnych zapożyczeń w celu wzbogacenia języka białoruskiego". Największe niebezpieczeństwo stwarzają rosyjskie konstrukcje składniowe oraz wyrażenia idiomatyczne, które burzą strukturę języka białoruskiego.

Rusyfikacja szybko doprowadziła do hegemonii języka rosyjskiego we wszystkich sferach życia publicznego na Białorusi. Proces ten, niestety, trwa nadal w formalnie niepodległej i suwerennej Republice Białoruś.

*Streściła Nina Barszczewska*

**Słowa kluczowe:** rusyfikacja języka, reformowanie języka, polityka językowa, język nauczania, zapożyczenia, opór pisarzy, wzbogacanie języka.

**Ключевые слова**: русификация языка, реформирование языка, языковая политика, язык обучения, заимствования, сопротивление писателей, обогащение языка.

**Key words**: Russification of the language, reforming the language, language policy, teaching language, borrowing, resistance of the writers, enriching the language.